

№ 14 (127)

Красавік 2006 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:



### На тым тыдні...

- Экспазіцыя «Сучасная Беларусь. Этапы культурнага будаўніцтва» адкрылася 15 сакавіка ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі. Складаецца экспазіцыя з наступных раздзелаў: гісторыка-культурная спадчына; музеі Беларусі; бібліятэкі; народная творчасць; прафесійная мастацкая творчасць; фестывальны рух; міжнароднае культурнае супрацоўніцтва.

- Як паведамляе грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны», 23 сакавіка каля Брэста былі заўважаны першыя невялікія чародкі кнігавак. Гэты самы вядомы ў нашай краіне кулік, дарэчы, аб'яўлены АПБ птушкай 2006 года. Акрамя таго, з выраю вярнуліся палявыя жаваранкі, зяблікі, шэрыя чаплі, жураўлі, серабрыстыя чайкі.

- Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь запрашае ўсіх цікаўных на выставу члена Саюза мастакоў Беларусі Вольгі Грыцаевай «Тэатр у мастацкіх вобразах». Адкрыццё выставы адбылося 24 сакавіка.

### Сяткуем разам!

*Грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», «Краязнаўчая газета» віншуюць Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі з 80-годдзем заснавання і паспяховай працы.*

*Аддаем павагу ўзважанай грамадзянскай пазіцыі таварыства ў дачыненні да інфармаванасці міжнароднай супольнасці пра справы і турботы краіны Беларусь. Жадаем і надалей мацаваць сяброўства беларусаў з усімі народамі свету, плёну на ніве культурнага супрацоўніцтва.*



*На фота: сяброўская гутарка старшыні таварыства Арсена Ваніцкага з беларускімі пісьменнікамі (снежань 1993 года)*



*Прадвесне. Зэльва. Каля царквы*

*Фота Ігара ПРАКОФ'ЕВА*

# Складаючы летапіс роднага краю...

***Наша Ганцаўшчына належыць да Усходняга Палесся. Тут, на невялікай тэрыторыі, амаль у кожнай вёсцы свая гаворка, свае звычаі, свае песні і казкі. Пакуль што яна не стала аб'ектам глыбокага вывучэння для розных вучоных, а вывучаць ёсць што...***

Краязнаўства стала адным з важнейшых накірункаў дзейнасці бібліятэк раёна. Поспехам завяршылася трохгадовая праца па стварэнні краязнаўчага музея ў Малькавіцкай пасялковай бібліятэцы. А пачалося ўсё са старых фотадымкаў ды копій дакументаў XIX стагоддзя, знойдзеных у адной з закінутых хат вёскі. Усё гэта трапіла ў бібліятэку, зацікавіліся гэтымі дакументамі і супрацоўнікі Ганцавіцкай раённай бібліятэкі імя В.Ф. Праскурава. Вырашылі прадоўжыць работу па зборы разнастайных дакументаў, якія тычацца Малькавіч. Дасылалі запыты ў Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, склалі спіс архіўных дакументаў, атрымалі копіі двух дакументаў. Вяліся пошукі звестак пра вёску ў літаратуры. Самае цікавае ў пошуках – збор мясцовых дакументаў: фотадымкаў, пісьмаў з сямейных архіваў, прадметаў побыту і г.д. Колькі жыццёвых гісторый мы пачулі, колькі патрымалі ў руках дакументаў! І склалася гісторыя вёскі...

Малькавічы ўпершыню згадваюцца ў Хроніках навагрудскага падсудка Хведара Булашоўскага ў 1593 годзе. У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі захоўваюцца дакументы па Малькавічах, якія сведчаць аб развіцці вёскі з XVII стагоддзя. Малькавічы пераходзілі з рук у рукі, вёска расла, развівалася, дзякуючы гандлёвым шляхам на Пінск, Давыд-Гарадок. Доўгі час вёска належала ордэну езуітаў, а потым стала ўладаннем графаў Патоцкіх. У 1889 годзе тут пралягла чыгунка Лунінец – Баранавічы, што дало штуршок для развіцця рабочага пасёлка і прамысловасці. На пачатку XX стагоддзя тут актыўна займаліся вывазам лесу, бо наўкола стаялі векавыя бары. Дзеля гэтага будаваліся вузкакалейкі, якія злучалі між сабой вёскі. У гады Першай сусветнай вайны ў ваколіцах стаяў фронт, адсюль па вузкакалейцы вазілі на фронт салдат і правізію, вывозілі параненых і хворых, якіх тут жа лячылі. У 20-я гады XX стагоддзя звedалі Малькавічы і нямецкую, і польскую, і савецкую ўладу. Тут ішлі баі паміж рэгулярнымі часцямі армій. А да 1939-га года Малькавічы належалі Польшчы. У гады Другой сусветнай вайны тут пралягалі маршруты партызанскіх злучэнняў і дыверсійных груп. Сотні малькаўцаў былі партызанамі, ваявалі на франтах.

Шчыра працуюць вяскоўцы на зямлі, у прамысловасці. Жывуць Малькавічы сённяшнімі клопатамі, але і продкаў не забываюць. Сведчанне таму – адкрыццё краязнаўчага музея. Прыгожы будынак вабіць і старога, і малога. Музей размясціўся ў двух утульных пакоях бібліятэкі. У першым – гістарычная частка са стэндамі, якія расказваюць аб развіцці вёскі ў XIX–XX стст. Асобны стэнд прысвечаны падзеям Вялікай Айчыннай вайны. Цікава прадстаўлены арганізацыі і ўстановы Малькавіч: чыгунка, бальніца, школа, калгас, сельсавет, сацыяльная сфера, дзіцячы дом, які існаваў тут у пасляваенныя гады. Асноўнымі дакументамі з'яўляюцца фотадымкі, архіўныя дакументы, перыядычныя выданні і кнігі, пасведчанні, граматы, узнагароды. Цікавасць выклікаюць падручнікі сярэдняй школы 50-х гадоў, прылады працы чыгуначнікаў, сшытак назіранняў за надвор'ем у Малькавічах за 1990 год і г.д.

*(Заканчэнне на стар. 2)*

**Ліст у рэдакцыю**

## Зніклыя вёскі

«Зноў пра ўвекавечванні зніклых і знікаючых вёсак. Напярэдадні свята Вялікай Перамогі, аналізуючы кнігу «Памяць», мы з краязнаўцамі, вучнямі Старасельскай СШ Віцебскага раёна склалі дакладную карту сваёй мясцовасці, Лятчанскага сельсавета, пазначылі на ёй існуючыя, знікаючыя і зніклыя вёскі.

І вось, абмеркаваўшы артыкулы на тэму "Увекавечванне зніклых вёсак", нашы краязнаўцы прапануюць наступнае: ля кожнага сельскага савета стварысь мемарыяльную дошку, на якой будзе зроблена картасхема сельсавета з пазначанымі вёскамі, а над ёй зрабіць спіс вёсак, спіс хутароў (па магчымасці), калі прыкладна знікла вёска і па якой прычыне.

Гэта наша прапанова. Яе мы вынесем на абмеркаванне нашага сельсавета. А мо ў каго будзе іншая прапанова?

*Маргарыта ЮШКЕВІЧ, Віцебскі раён»*

**Ад рэдакцыі.** *Паважаная Маргарыта Дзмітрыеўна! Вялікі дзякуй за дасланы ў рэдакцыю ліст. Спадзяемся, што Ваша прапанова не застанецца па-за ўвагай чытачоў, краязнаўцаў, а асабліва мясцовых улада. Таму што справа ўшанавання памяці пра зніклыя вёскі вельмі патрэбна дзеля захавання гістарычнай памяці нашага народа. А ўсіх чытачоў "КГ" просім больш актыўна звяртацца ў рэдакцыю са сваімі прапановамі па дадзенай праблеме.*

**У тэатры «Зьніч»**

Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра «Зьніч», які месціцца ў сталічным Чырвоным касцёле, **13 красавіка** запрашае на прэм'еру паэтычнага монаспектакля «Пацеркі» паводле паэзіі Вольгі Седаковай (у перакладзе Ніны Загорскай). Паэтычная гераіня бы пацеркі перабірае жыццёвыя падзеі, учынкі, стасункі з людзьмі... Яе малітва – пытанне да Бога, да людзей, да сябе:

*Няўжо – як і ўсе –*
*мы разлучымся?*
*мы, якія зведалі тое-сёе*
*пра пачуцці,*
*якія тое-сёе зведалі пра свет,*
*што меншы за грош...*

Выканаўца монаспектакля Марына Папова – вядомая актрыса, педагог, рэжысёр. У спектаклі гучыць вакаліз «Любоў святая» Алега Залётнева і духоўныя спевы мужчынскага хору «Валаам».

**17 красавіка ўдзень** артыст Леанід Сідарэвіч запрашае дзяцей на лялечны монаспектакль **«Пра ката Сафрона і пеўніка Андрона»**. Малечу чакаюць вясёлыя і амаль што неверагодныя дзеі. На спектакль прымаюцца калектыўныя заяўкі.

**Увечары 17 красавіка** – монаспектакль **«Нобіль – барвяны ўладар»** паводле аповесці Уладзіміра Караткевіча «Сівая легенда». Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Уладзімір Шэлестаў дапаможа зазірнуць у часы сярэднявечнай Беларусі, «пажыць» у часы рамантычныя і суровыя адначасова.

Па дадатковую інфармацыю можна звяртацца па мінскія тэлефоны 231-75-53, 615-26-79.

### Запрашае Нацыянальны Акадэмічны імя Янкі Купалы

10 красавіка пройдзе камедыя ў 2-х дзеях А. Дзялендзіка **«Смак яблыка»; 12-га** – яшчэ адна камедыя, **«Дзіўная місіс Сэвідж»** Дж. Патрыка; **14 і 29 красавіка** гледачы пабачаць містэрыю ў 2-х дзеях **«Сымон-музыка»** паводле аднайменнай паэмы Я. Коласа; старадаўні беларускі вадэвіль **«Ажаніцца – не журыцца»** паводле твораў Далецкіх і М. Чарота пройдзе **15 красавіка; 16-га** – візітоўка тэатра, камедыя ў 2-х дзеях **«Паўлінка»** Я. Купалы; **17 і 19 красавіка** гледачоў чакае **«Чычыкаў»**, містычная камедыя ў 2-х дзеях паводле паэмы М. Гогаля **«Мёртвыя душы»**; **20** – зноў містыка: легенда аб любові ў адной дзеі **«Чорная панна Нясвіжа»** А. Дударава; гісторычна-недакладная камедыя Ф. Дзюрэнмата **«Ромул Вялікі»** пройдзе **21 красавіка**; пластычны спектакль **«С. В.»** паводле п'есы А. Чэхава «Вішнёвы сад» пройдзе **22 красавіка; 23 красавіка** – пастараль у адной дзеі **«Парфён і Аляксандра»** М. Манохіна; камедыя ў 2-х дзеях **«Таполевая завея»** М. Задорнава будзе **24 красавіка**; драма **«Эрык XVI»** А. Стрынберга – **26 і 27 красавіка**; урэшце, **28-га** – трагікамедыя М. Саймана **«Я не пакіну цябе...»**.

На Малой сцэне (вул. Энгельса, 12) **10 красавіка** чакаецца летапіс кахання ў адной дзеі **«Саламея»** С. Кавалёва; монаспектакль **«Беларусь у фантастычных апавяданнях»** Я. Баршчэўскага пройдзе **14 красавіка**; **16-га** – меладрама Л. Зорына **«Варшаўская мелодыя»**; **22-га** – лірычная трагікамедыя Азіза Несіна **«Адчыніце кантралёру!»**; японская гісторыя Д. Хуана **«Дом, дзе спяць прыгажуні»** запросіць **30 красавіка. 24 і 28 красавіка** пройдзе прэм'ера псіхалагічнага дэтэктыва **«Дзікае паляванне караля Стаха»** Ул. Караткевіча.

Школьнікаў тэатр запрашае на ранішнія спектаклі. **16 красавіка** яны пабачаць камедыю Я. Купалы **«Паўлінка»**, а **30-га** – казку Я. Шварца **«Снежная каралева»** паводле аднайменнага твора Х.-К. Андэрсена.

Па дадатковую інфармацыю можна звярнуцца па мінскім тэлефоне 227-60-81.

## Прэмія імя Ушакова

Шосты год (пачынаючы з 2001 г.) Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры і грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры» праводзяць творчы конкурс мастакоў-сцэнографаў на лепшае афармленне спектакля сезона.

Год мінулы быў дастаткова багаты на новыя тэатральныя пастаноўкі, таму ў конкурсе прымала ўдзел сем прэтэндэнтаў.

Конкурс носіць імя былога галоўнага мастака Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы Івана Міхайлавіча Ушакова і заснаваны ініцыятываю і грашыма ўдавы мастака Зоі Данілаўны, якая штогод асабіста праводзіць уручэнне прэміі, нягледзячы на свой паважаны ўзрост.

Так адбылося і на гэты раз: 28 сакавіка ў будынку музея сабраліся госці, прыехала Зоя Данілаўна і ва ўрачыстай абстаноўцы уручыла прэмію лаўрэата пераможцу – мастаку тэатра імя Я. Купалы Віктару Цімафееву за афармленне спектакля «Дзікае паляванне караля Стаха» паводле твора У. Караткевіча.

Зоя Данілаўна шчыра павітала лаўрэата, дырэктар музея З. Кучар і старшыня фонда У. Гілеп уручылі кветкі заснавальніцы конкурсу, пажадалі ёй добрага здароўя і сустрэч на новых аглядах работ мастакоў-сцэнографаў.

Журы конкурсу адзначыла таксама працы мастакоў Андрэя Меранкова і Дзмітрыя Мохава – адпаведна работ «Я твая нявеста» (Магілёўскі драматычны тэатр) і «Зоры тут ціхія» у Тэатры юнага гледача.

Ушанавана і работа над касцюмамі мастачкі Ніны Гурло да спектакля «Вельмі простая гісторыя» па п'есе М. Лядо тэатра-студыі кінаакцёра.




**Сергіеня** Уладзімір Васільевіч (н. 05.04.1945, в. Красіна Капыльскага р-на Мінскай вобл.), загадчык аддзела краязнаўства Рэспубліканскага цэнтра турызму і краязнаўства навучэнскай моладзі. Займаецца краязнаўствам з 1975 г. Настаўнікам лічыць В. Рабцэвіча. Вывучае нумізматыку, удзельнічае ў арганізацыі краязнаўчых чытанняў, канферэнцый, абнаўленні экспазіцыі музея гісторыі дзіцячага турызму і краязнаўства. Аўтар вучэбных праграм, метадычных дапаможнікаў для школьных гурткоў.

**Серпікаў** Віктар Пятровіч (н. 02.08.1946, в. Антонаўка Добрушскага р-на Гомельскай вобл.), настаўнік Насовіцкай СШ Добрушскага раёна. Скончыў Гомельскі дзяржаўны універсітэт (1969). Краязнаўчую дзейнасць распачаў у 1975 г. Настаўнікамі лічыць М. Куцалапаву, М. Півавара. Займаецца этнаграфіяй і археалогіяй Добрушскага раёна. Стваральнік школьнага гісторыка-этнаграфічнага музея.

**Сідарэнка** Барыс Ігаравіч (н. 27.03.1955, г. Магілёў), гісторык, працуе ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі. Скончыў Магілёўскі педінстытут (1978), дзе і далучыўся да краязнаўства. Настаўнікам лічыць І. Філіповіча. Вывучае гісторыю Магілёва і Магілёўшчыны. Адзін з аўтараў кнігі «Памяць. Магілёў» (1998).

Тв.: Древний Могилёв (очерки истории города XIV–XVI вв.). Мн., 1997.

**Сіпач** Сяргей Іванавіч (н. 20.02.1924, в. Гарэлец Пухавіцкага р-на Мінскай вобл.). Вучыўся ў Гарэліцкай 7-годцы. Скончыў педагагічныя курсы ў Мінску (1941), гістарычны факультэт Мінскага педінстытута (1965). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны (з 1942 – баец партызанскага атрада «Сокал» 2-й Мінскай партызанскай брыгады). Да 1947 г. у Савецкай Арміі. Пасля – выкладчык гісторыі Гарэліцкай базавай школы. Краязнаўчай дзейнасцю займаецца з 1964 г. Вывучае гісторыю партызанскага руху на Пухавіччыне, Міншчыне, мінулае вёскі Гарэлец. У 1984 – 2005 гг. кіраваў працай музея «Партызанская слава» (цяпер філіял Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея). Аўтар шматлікіх артыкулаў у раённай газеце «Пухавіцкія навіны».

Падрыхтаваў да друку гісторыка-краязнаўчую кнігу, прысвечаную падзеям Вялікай Айчыннай вайны на Міншчыне.



*Ул. Сергіеня*



*В. Серпікаў*



*Б. Сідарэнка*

## Складаючы летапіс роднага краю...

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

У дзень адкрыцця музея я назірала за яго наведвальнікамі. Гэта незабыўныя хвіліны, і дзеля іх варта працаваць. Зайшоў, напрыклад, мужчына ў сталым узросце, глянуў наўкола і падаўся да стэнда Вялікай Айчыннай вайны. Доўга ўзіраўся ў фотаздымкі, на твары – чаканне і трывога. А потым напсвятлеў, усміхнуўся, расцёр твар далонню. Ён так хацеў убачыць фотаздымак свайго бацькі тут, у музеі. Сюды ж падыйшла жанчына і таксама доўга стаяла ля экспанатаў. Са здымку глядзеў на яе муж, якога ўжо няма. Яна сама прынесла дакументы сюды ў спадзяванні на тое, што памяць аб цудоўным чалавеку захаваецца і пасля яе. А вось В.І. Юрчанка доўга стаяла каля экспазіцыі, прысвечанай чыгунцы, дзе ёсць фотаздымкі яе дзеда, бацькі, мужа. Дзед быў першым чыгуначнікам у Малькавічах у канцы XIX стагоддзя, а бацька – чыгуначнікам з вышэйшай адукацыяй, муж усё жыццё таксама аддаў чыгунцы. Вольга Ігнатаўна прынесла ў музей сямейныя фотаздымкі пачатку XX стагоддзя і расказала захапляючую гісторыю сваёй сям'і. І такіх гісторый з жыцця вёскі тут мноства.

У другім пакоі музея вы трапіце ва ўтульную хату вяскоўца 50-х гадоў XX стагоддзя. Круглы стол з вышытай сурвэткай, лазовая этажэрка з патэфонам і кніжкамі, куфар і драўляная канапа, посцілкі, ручнікі, сурвэткі вышытыя і вытканыя малькаўчанкамі... Тут хочацца прысесці, удыхнуць цяпло грубкі, сцішыцца, успомніць... Доўга свяціліся вокны бібліятэкі-музея ў той дзень. Ішлі людзі, каб сустрэцца з продкамі, маладосцю, падзяліцца цяплом сваёй душы.

Наша Радзіма – гэта вялікія гарады і маленькія вёскі, магутны Днепр і палеская задумённая рэчка Цна. Утвараліся і зніклі дзяржавы, стагнала зямля ў вогненных віхурах, зацвітала валошкамі ды рамонкамі. Сплывалі ў нябыт стагоддзі, пакідаючы ў спадчыну нашчадкам свае таямніцы, запаветы, спадзяванні. Гісторыя завязала многа вузельчыкаў, скруціўшы ў адно праўду і быль. Адкуль мы родам? Хто мы? Адказы на мноства падобных пытанняў трэба шукаць сёння, трэба зберагчы набыткі продкаў для сваіх нашчадкаў, каб не вінаваціліся нас за раўнадушша, бяспамяцтва. Менавіта для гэтага працуюць бібліятэкары Ганцавічыны, складаючы летапісы, запісваючы народную спадчыну, адкрываючы краязнаўчыя куткі і музеі.

*Тамара ВАЛУЕВІЧ,*
*дырэктар*
*Ганцавіцкай РЦБС*





*Кароткі слоўнік*
# краязнаўча-прававой тэрміналогіі
*беларускай старажытнасці*



***(Пачатак у № 3 за 2005 г.)***

**ПАДСКАРБІ** – вышэйшы службовец у ВКЛ, які загадваў дзяржаўным скарбам. Падскарбі земскі наглядаў за спагнаннем натуральных і грашовых падаткаў і збораў, вёў улік дзяржаўных выдаткаў. Пад яго назіркам збераталіся грошы і каштоўнасці, атрыбуты вялікакняжацкай і дзяржаўнай улады. Уваходзіў у склад Рады Вялікага княства Літоўскага, з 1569 г. і ў склад сената Рэчы Паспалітай. Падскарбі дворны загадваў скарбам двара вялікага князя і замяшчаў падскарбія земскага. У феадальнай Польшчы дзяржаўным скарбам загадваў падскарбі каронны, яго намеснікам быў падскарбі надворны.

**ПАДСТАРОСТА** – намеснік старосты ў ВКЛ, які кіраваў намесніцтвам і назіраў за выкананнем судовых выракаў. Уваходзіў у склад ніжэйшага замкавага суда. Падстаростам называлі таксама наглядчыка замка, аканома маёнтка.

**ПАДСТОЛІ** (падстольнік) – службовец у ВКЛ, намеснік стольніка. З XVI ст. ганаровы тытул, які надаваўся магнатам, шляхціцам.

**ПАДСУДАК** – памочнік суддзі ў ВКЛ. Як і суддзя, выбіраўся шляхтай і зацвярджаўся вялікім князем. Земскі падсудак меў права рашаючага голасу, а паміж судовымі пасяджэннямі, у так званы час адкрыцця актавых кніг, – займаўся выдачай выпісак і копій з дакументаў, разам з пісарам фактычна быў галоўнай асобай у судзе. Праводзіў дасудовую падрыхтоўку спраў.

**ПАДСУСЕДЗІ** (падсуседнікі, падсуседкі) – беззямельныя сяляне ў ВКЛ XVI – 1-й пал. XVII стст., якія жылі ў вёсках і гарадах на чужых дварах.

**ПАДЧАШЫ** – прыдворны чын у ВКЛ, намеснік чашніка. З XV ст. ганаровы тытул.

**ПАКАРАННЕ** – мера дзяржаўнага прымусу ў судовай практыцы ВКЛ да злачынцаў, кара альбо помста, застрашванне. Пры ім абмяжоўвалі ў правах альбо ўжывалі фізічныя пакуты. Насіла класавы характар. У большасці найцяжэй каралі простых люд, хоць і ўлічвалі ступень віны кожнага. За злачынства супраць жанчыны належала двайное пакаранне. Яно мела розныя формы: смяротная кара, турэмнае зняволенне, біццё, пазбаўленне гонару і праваў, выгнанне за межы дзяржавы, канфіскацыя маёмасці і інш. Смерцю караліся за дзяржаўную здраду, забойства, наезд, разбой і інш. Пазбаўленне жыцця ішло па-рознаму: павешанне, адсячэнне галавы, спаленне, чвартаванне і інш. Пакутлівым і ганебным спосабам каралася забойства дзяцьмі сваіх бацькоў. Зняволеных утрымліваліся ў вежах пры замкавых судах, дзе рэжым утрымання быў розны. Працягласць турэмнага зняволення таксама была рознай. Было, што зняволенага трымалі да таго часу, пакуль ён не выплочваў штраф ці знаходзіў сабе паручыцеля. За злачынствы пазбаўлялі гонару і правоў, выдалялі за межы звычайна шляхту. Грашовыя штрафы за гвалтоўныя дзеянні спагаляліся на карысць казны і судовых устаноў. Статуты ВКЛ патрабавалі, каб пры вызначэнні пакарання ўлічвалася ўсе акалічнасці справы. Няпэўныя доказы, што выклікалі сумненне, павінны былі разглядацца на карысць абвінавачанага (своеасаблівая форма прэзумпцыі невінаватасці).

*Факультатыў*

# Свет ад травы да зор

**Цыкл урокаў «Беларуская паэзія: сістэма вобразаў прыроды, паэтыка пейзажу»**

***Вобразы вясны, вясновыя матывы займаюць адно з галоўных месцаў у вуснапаэтычнай творчасці. А калі зірнуць глыбей, у старажытнай міфалогіі беларусаў, увогуле славян. Уклад жыцця нашых продкаў быў вельмі цесна звязаны з зямелькай-карміцелькай, яе пладаноснасць, ураджайнасць напрамую залежалі ад прыроды, яе спрыяння. Абуджаная зямля, вясновае сонца былі прадвеснікамі новага земляробчага года, яны выклікалі ў чалавечай душы і радасць, і хваляванні. Невыпадкова ў народзе да нашага часу кажуць: «Вясна год корміць». Альбо: «У сакавіку зіма не гніе – у красавіку трава не расце», «Як у сакавіку туман, дык у жніво дождж – пан!», «У красавіку грымот – будзе цёплы год», «Май халодны, год хлебародны» і інш.***

## «Ідзі, вясна, красуйся...»

*(Працяг. Пачатак у № 13)*

Па-язычніцку заклікаў Я. Колас вясну, услаўляў яе сілумоц і хараство ў такіх вершах, як «Закліканне вясны», «Вясна» («Вясна прыйдзе, снег пагіне...»), «Вясна», «Вясна, вясна жаданая!..), «Вясна на Палессі», «На полі вясною», «Майская раніца», «Першы гром» і інш. А хто не памятае шматфарбнага, размашыстага пэндзля мастака ў пейзажных карцінах з «Новай зямлі», дзе гучыць цэлая вясновая сімфонія прыроды:

*Вясна была яшчэ ўпачатку,*
*Але снягі ўжо раставалі*
*І дружна ў полі балбаталі*
*Раўкі, ручулкі, і ў грамадку*
*Яны ваду сваю злівалі,*
*Ад сну гаі, лясы будзілі*
*І людзям душу весялілі.*

Коласава музыка прыроды гучыць віртуозна, лёгка, дынамічна. Увогуле, вясновыя пейзажы паэта ўражваюць сваёй незвычайнай гарманічнасцю, пластыкай, глыбокай эмацыянальнай перажытасцю вобразаў. Я. Колас тонка вычувае зыкі, галасы першых вясновых стыхій – грому, дажджу, і гэтыя мелодыі ды галасы-адгалоскі адбіваюцца ў ювелірнай інструментоўцы радкоў, паэтычных асанансах, алітэрацыях і іншых сродках мастацкай выразнасці: мы захапляемся булькатаннем ручаёў, чуем, як птушкі «звонкім сваім крыкам» будзяць жыццё прыроды, нераўнадушна ўспрымаем, як «голасам моцы ціха і важна Гром пракаціўся ўгары...» Паэт здольны вычуць, «як расце трава і збожжа – нівак свежае руно» («Сымон-музыка»). Чытаючы Я. Коласа, здаецца, далучаешся да самага таемнага, глыбіннага абнаўлення прыроды.

Вясновае абуджэнне прыроды ярка жывапісаў Янка Купала. Прычым Купалавы малюнкі беларускай прыроды па сваёй вобразнасці, эмацыянальнасці гучання такія ж яркія, як і прыродаапісанні Я. Коласа, складаюць самавітую старонку нацыянальнай пейзажнай паэзіі. У паэме «Яна і Я» – цэлае шматгалоссе вясновых матываў: чуецца традыцыйна-песеннае загукванне вясны і апяванне яе прыходу («Ой, брала вясна у сонца ключы, Адчыняла сырую зямельку...»), радасна ўслаўляецца росквіт прыроды і кахання (раздзел «Яблыні цвітуць»), раздаецца высока-паэтычнае ўхваленне вясновага свету (раздзел «Краса свету»).

Я. Купала, як і Я. Колас, жывапісуе вясну з лірычнай задушэўнасцю і разам з тым з вялікім захапленнем. Згадайма такія яго вершы, як «Вясна» («Згінулі сцюжы, маразы, мяцеліцы...»), «Вясна» («У вянку з пралесак...»), «Явар і каліна» і інш. Позірк Я. Купалы-мастака аб'ёмны, таму некатэрыя ягоныя вясновыя пейзажы пазначаны вобразнай шырынёй:

*Спаўзлі з загонаў зімнія снягі*
*І ў мора паплылі*
*ракой-вадзіцай,*
*Запелі жаўранкі.*
*І чорныя лугі*
*Ўсміхацца сталі першаю*
*травіцай.*
*(«Яна і Я»)*

Вясна – само Адраджэнне, якое так натхнёна і па-грамадзянску ўсвядомлена клікаў Я. Купала і іншыя песняры нацыянальнай ідэі, нацыянальнай незалежнасці. «Яшчэ прыйдзе вясна! Яшчэ прыйдзе!..» – прароча сцвярджаў Я. Купала ў вершы «Яшчэ прыйдзе вясна» (1908). «Выйдзі спаткаці вясну!», «Выйдзі... Чакае вясна!» – на высокай заклікальнай ноце гучыць паэтаў голас у вершы «Выйдзі...» (1912).

Успрыманне пары вясновага квітнення часам нараджала і ў сэрцы Максіма Багдановіча элегічную настраёвасць, філасофскі роздум, які з унутранай абвостранасцю выяўлены ў вершы «Непагодаю маёвай». Аднак у вясновых малюнках паэта драматычны пафас, хутчэй, выключэнне, бо, наадварот, у ягоных радках струменіць жыццярадаснасць, вера ў адраджальны дух прыроды. І гэта нягледзячы на тое, што М. Багдановіч быў моцна хворы і жыццё яго згасала, нібы свечка. З вялікім душэўным імпэтам ён паэтызуе абуджэнне і красу вясновай прыроды ў вершы «Перад паводкай». Уражвае раскаванасць, шырыня эмацыянальнага самавыяўлення паэта: «І красой паводкі вольнай Душу выпрастай маю!» Дынамізмам, меладычнасцю напоўнены страфы іншага твора – «Па-над белым пухам вішняў...», у якім чуваць «ціхі, ясны гімн вясне».

Карціны і малюнкі вясновай прыроды, створаныя Змітраком Бядулем, вельмі каларытныя, маляўнічыя. Пейзажная лірыка паэта, як падаецца, яшчэ і на сённяшні дзень недаацэнена. Выразна настраёвыя, акварэльныя вясновыя пейзажы паэта, як падаецца, па сваёй тонкай нюансавасці колераў асабліва блізкія лірычным палотнам выдатнага беларускага мастака-пейзажыста Вітольда Бялыніцкага-Бірулі («Вясна», «Ранняя вясна», «Веснавы дзень», «Блакітнай вясной», «Лёд прайшоў» і інш.):

*Пад сонцам грэліся бярозы*
*У белым тонкім палатне.*
*І зелянелі вербалозы,*
*І за ракой папар чарнеў.*
*(«Яшчэ бялелі касагоры...»)*

У вясновых малюнках прыроды пранікнёна, задушэўна выказала сябе Канстанцыя Буйло («Вясна», «Вясна пяе... Гамоняць ручаі...», «У маі» і інш.). Вясновая пара для яе гераіні – «шчаснае прадвесне», «радасць маладая», вольнае разгарненне душы. Па-свойму шчыра, адметна праспявалі песні вясне Цётка, Янка Журба, Алесь Гурло і іншыя паэты.

Як бачым, вясна – адзін з самых прыкметных, дамінуючых вобразаў паэзіі пачатку XX стагоддзя. З гэтай парой года звязана цэлая гама эстэтычных уражанняў і перажыванняў, большасць з якіх – радасная, аптымістычнага характару. Вясна – услаўленне жыцця і будучыні, духоўнай моцы чалавека, увогуле народа.

Своеасаблівае адлюстраванне набыў вобраз вясны ў беларускай паэзіі 1920-х гадоў. Радасны вясновы ўздым поўніць радкі многіх паэтаў. І гэта зразумела: на паэтычнае ўспрыманне прыроды магутны адбітак накладвалі поступ часу, гістарычныя змены, выявы навакольнай рэчаіснасці.

Вясновасць шырока струменіць ужо ў назвах тагачасных паэтычных зборнікаў і многіх твораў: «Золак вясны», «Вясну пяю», «Звон вясны», «Чырвоныя веснянкі», «Веснацвет», «Галасуе вясна за вясну» і інш. «У сінія майскія песні спавілася душа мая», – прызнаецца паэт Алесь Дудар, які адчувае сябе «сынам вясны і віхуры». Вясна ў ягоных радках, як і ў вершатворчасці іншых маладнякоўцаў, выяўляецца як сутнасць грамадска-значнага, як музыка грамадзянскіх пачуццяў, а не лірыка прыроды, што гучыць сама па сабе і сваімі акордамі сцішана, роздумна-рэфлексійна ўваходзіць у інтымны свет паэта.



*«Вясна была яшчэ ўпачатку, але снягі ўжо раставалі...»*

*Фота Міколы ПІВАВАРА*

*Алесь БЕЛЬСКІ*

*(Працяг будзе)*





# Мяняецца вёска, становіцца іншым жыццё...

За апошнія дзесяцігоддзі амаль цалкам змянілася душа беларускай вёскі – яе традыцыі і звычаі. Калектывізацыя, вайна, гады савецкага панавання, урбанізацыя, павевы новага часу, своеасаблівая «глабалізацыя» стварылі свае жыццёвыя вартасці, чалавечыя каштоўнасці. Спаконвечная народная мудрасць, філасофія паступова ператварылася ў непатрэбшчыну, стала «не сучаснай». Нават некаторыя старыя людзі, захавальнікі вуснай народнай творчасці, не жадаюць перадаваць гэты бясцэнны скарб маладому пакаленню. Таму часам даводзіцца чуць такія словы:

– А навошта табе, хлопча, запісваць гэтыя колішнія песні? Цяпер унь колькі новых гучыць па целівізары.

І не дзіўна, што непавага да прадстаўнікоў старэйшага пакалення, нахабнае «тыканне» ім моладзі нікога не здзіўляе...

Мяняецца не толькі ўнутраны свет вёскі. Становіцца іншым і яе знешні выгляд. Сучасная сядзіба фармуецца ў асноўным па наступнай схеме: хата – насупраць, паралельна ёй, хлеў; хата – хлеў... А дзе ж свірны, гумны, пуні, лазні, без якіх нельга ўявіць традыцыйнасць вясковага двара? Вядома, калі зямельны ўчастак невялікі, яны не патрэбны. Але нават там, дзе зямлі дастаткова і гэтыя гаспадарчыя пабудовы ёсць, іх размяшчэнне зусім не падобнае на ранейшае, якога прытрымліваліся нашы продкі на працягу многіх стагоддзяў.

Убачыць традыцыйны сялянскі двор сёння можна хіба толькі ў некаторых глухіх палескіх вёсках. Альбо ў музеі «Сялянскага двара», які быў адкрыты ў 2002 годзе ў Ганцавічах Брэсцкай вобласці. Усе гаспадарчыя пабудовы на тэрыторыі музея – паменшаная копія двара, характэрнага для гэтага рэгіёну. Тут і невялікі свіронак, у якім захоўвалі збожжа, сала, сельскагаспадарчыя прылады працы, ганчарныя вырабы, і азярод, дзе сушылі снапы, і вуллі, і агароджа, на якой вісяць гліняныя гаршчкі, збаны, а яшчэ тут ёсць вельмі прыгожая брама. Дырэктар музея Валянціна Васільеўна Занька расказала, што ўсё гэта створана з дрэва, якое выдзеліў лясгас, рукамі мясцовых майстроў.



Захаваць традыцыйнасць і самабытнасць беларускай вёскі можна і ў сённяшні час. Для гэтага дастаткова наведаць хоць бы гэты музей пад адкрытым небам у Ганцавічах.

*Ігар ГРЭЧКА*



*На фота аўтара: у музеі «Сялянскага двара»*




## XVI стагоддзе: Рэфармацыя

*Чытачы нашай газеты заўважылі, што мы намагаемся асвяціць, як развівалася, адлюстравалася беларуская гісторыя, культура з часоў старажытнага Полацка (862).*

*На сучасны момант наша выданне запыніла ўвагу на XVI стагоддзі. Тое, што ўжо надрукавана, вам вядома. Цяпер некалькі нумароў прысвецім такой з'яве XVI стагоддзя, як Рэфармацыя (ад лац. пераўтварэнне, па-сённяшняму – перабудова).*

*У лістападзе 2003 года ў Мінску адбылася Міжнародная навуковая канферэнцыя, прысвечаная Рэфармацыі на Беларусі. У канферэнцыі прынялі ўдзел дзесяткі вядомых навукоўцаў з Беларусі, Расіі, Польшчы і іншых краін. Даследчыкі асвяцілі самыя розныя накірункі нацыянальна-дзяржаўнай, прававаой, культурнай, гаспадарчай палітыкі ВКЛ таго часу. Па выніках канферэнцыі быў выдадзены зборнік тых дакладаў. Галоўны рэдактар выдання, сябра рэдкалегіі «Краязнаўчай газеты» А. Грыцкевіч і адзін са 100 экземпляраў зборніка ласкава перадалі рэдакцыі і дазволілі некаторыя тыя даклады, нават у скарочаным выглядзе, агучыць для больш шырокай грамадскасці.*

# Рэфармацыя і яе ўплыў
## на развіццё грамадскіх адносін і культуры Беларусі XVI–XVIII стагоддзяў

Рэфармацыйны рух, які ахапіў у XVI ст. краіны Заходняй Еўропы, пачаў хутка распаўсюджвацца і ва Усходняй Еўропе. Ва ўмовах крызісу каталіцкага касцёла Рэфармацыя як грамадска-палітычны і ідэалагічны рух пашырылася і на тэрыторыю Беларусі.

Гэты рух даў пачатак пратэстанцтву і стварэнню рэлігійных суполак і цэркваў, якія супрацьпастаўлялі сябе каталіцтву.

Агульныя для пратэстанцтва былі наступныя прынцыпы: абсалютны аўтарытэт Бібліі, якая абвяшчалася адзінай крыніцай веравучэння; свяшчэнства ўсіх веруючых, калі кожны вернік звязваўся з Богам непасрэдна; выратаванне душы асабістай верай; адмаўленне ад урачыстай абраднасці традыцыйных цэркваў; адмаўленне ад культу святых; часта і адмаўленне ад царкоўнай іерархіі.

Пачаўся ж рэфармацыйны рух з выступаў супраць большасці сакраментаў, супраць гандлю індульгенцыямі і супраць каталіцкай іерархіі.

Рэфармацыйны рух на Беларусі пачаўся ў 50-х гг. XVI ст. У 1553 г., вярнуўшыся ў Вільню з адбытага пасольства ў германскага імператара, найбагацейшы і ўплывовы магнат Беларуска-Літоўскай дзяржавы, канцлер і ваявода віленскі Мікалай Радзівіл Чорны, абвясціў, што ён з'яўляецца пратэстантам, прыхільнікам Жана Кальвіна, пачаў закладваць кальвінісцкія зборы (малітоўныя дамы) у Беларусі і Літве.

Пашырэнне Рэфармацыі ў Беларусі выклікала і змены ў самім грамадстве. Рэфармацыю ўспрынялі не толькі прыхільнікі каталіцкага касцёла, але і праваслаўнай царквы, якая таксама знаходзілася ў крызісе, асабліва ў другой палове XVI ст.

Такім чынам, грамадства ў Вялікім княстве Літоўскім за кароткі час змяніла сваё рэлігійнае аблічча. Пратэстанцкія абшчыны займаліся дабрачыннай дзейнасцю, адкрывалі шпіталі, прытулкі для інвалідаў, друкарні.

У другой палове XVI ст. да Рэфармацыі далучыліся прадстаўнікі ўплывовых магнацкіх сем'яў – Радзівілаў, Сапегаў, Пацаў, Кішкаў, Глябовічаў, Тышкевічаў, Валовічаў, Гарнастаяў і іншых. Да Рэфармацыі далучаліся не толькі католікі, але і праваслаўныя. Пратэкцыя ўплывовых магнатаў дапамагала пашырыцца Рэфармацыі ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве.

А. Мальдзіс адзначыў, што падарожнікі, якія ехалі праз Беларусь у XVI ст., здзіўляліся, што ў мясцовага магната або шляхціца за сталом маглі сядзець каталіцкі ксёндз і праваслаўны святар і тут жа сядзеў пратэстанцкі пастар ды яшчэ і мула з рабінам. У Беларусі ўсе святыні маглі стаяць на адной плошчы. І не было ніякага супрацьстаяння. Яно пачалося толькі ў XVII ст.

Такім чынам, рэлігійная талерантнасць сталася адным з дасягненняў шляхецкай дэмакратыі ў XVI ст. Пад націскам папскага нунцыя іерархія каталіцкага касцёла ў Рэчы Паспалітай заявіла свой пратэст супраць акта 1573 г., аднак польскія каралі (яны ж вялікія князі літоўскія) пры прыняцці кароны прымалі і прысягу ў захаванні моцы гэтага акта. Першы, хто прыняў такую прысягу, быў Генрык Валуа, абраны ў 1573 г. каралём і вялікім князем. Таму тэкст і формула прысягі, у якой, між іншым, гаварылася і пра верацярпімасць, атрымалі назву Генрыкавых артыкулаў.

Іншая справа, што ў другой палове XVII і XVIII стст., у пэўныя перыяды, у Рэчы Паспалітай былі пераследаванні арыянаў і абмежаванні ў рэлігійнай і палітычнай дзейнасці дысідэнтаў (некатолікаў), аднак Генрыкавы артыкулы, сярод якіх былі пункты аб свабодзе веравызнання, заставаліся неабходнай умовай для ўступлення на трон новага абранага караля.

Паводле сваёй арганізацыі кальвінісцкая царква ў Беларусі і Літве адрознівалася ад іерархічнай каталіцкай і праваслаўнай цэркваў. Лад рэфармацкай царквы з'яўляўся, па сутнасці, рэспубліканскім, што было ў пэўнай ступені супрацьстаяннем у дачыненні да феадальнага ладу таго часу. Ад самага пачатку існавання рэфармацкай (кальвінісцкай) царквы кожная абшчына была самастойнай у вырашэнні сваіх спраў.

*Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ*

*(Заканчэнне будзе)*



*Разбурэнне святыняў у часе барацьбы католікаў і пратэстантаў у Францыі (тагачасная гравюра)*



*Пратэстанцкая Біблія, выдадзеная Берасцейскай друкарняй, 1563 г.*





З бібліятэкі «КГ»

## Сябра Беларусі

Выдавецтва «Беларускі кнігазбор» на пачатку 2006 года выпусціла накладам 500 асобнікаў кнігу «Ежы Гедройц і Беларусь», падрыхтаваную грамадскім аб'яднаннем «Міжнародная асацыяцыя беларусістаў» і Польскім інстытутам у Мінску.

Ежы Гедройц – заснавальнік Літаратурнага інстытута ў Рыме (1946), выдавец і галоўны рэдактар часопіса «Культура» (з 1947) – нарадзіўся 27 ліпеня 1906 года ў Мінску. На Беларусі ў Ежы Гедройца не засталося ні сяброў, ні блізкіх. Пра дзяцінства яго памяць захавала толькі агульныя вобразы: Свіслач, Губернатарскі сад за ракой, Кафедральны сабор, Кальварыйскія могілкі. Зрэшты, гэта не пашкодзіла з'яўленню амаль у кожным нумары «Культуры» інфармацыі пра нашу краіну. Апошні нумар часопіса (№ 637) выйшаў у кастрычніку 2000 года, бо 14 верасня таго ж года перастала біцца сэрца нястомнага рэдактара, публіцыста, палітыка і таленавітага дыпламата.

Дарэчы, яшчэ пры жыцці Е. Гедройца 18 чэрвеня 1998 года ў Мінску Беларускім фондам культуры, Нацыянальным музеем гісторыі і культуры Беларусі пры садзейнічанні Польскага інстытута была арганізавана выстава, якая так і называлася – «Ежы Гедройц і Kultura».

Кніга «Ежы Гедройц і Беларусь» складзена на аснове матэрыялаў міжнароднага круглага стала (Мінск, 2001) і выбраных артыкулаў з перыядычнага друку.

Па рашэнні ЮНЕСКО 2006 год абвешчаны «Годам Гедройца».

**Наш кар.**



*Весялінка Палінка Вераб'ёва – адна з прадаўжальніцаў старажытных беларускіх традыцыяў*

*Фота Міколы КОТАВА*

Царкоўнае краязнаўства

*– Езус, Марыя!*
*Матка Боска Астрабрамска!*
*Матка Боска Быценска!*
*(У. Караткевіч «Чорны замак Альшанскі»)*

***Цудатворная ікона Божай Маці з Быцені, Божая Маці Жыровіцкая, Маці Боская Замілаванне Жыровіцкая, Быценская Мадона – усё гэта назвы абраза, які цяпер знаходзіцца ва Успенскай царкве вёскі Быцень.***

***Існавала легенда, паводле якой быценцы сцвярджалі, што ў храме вёскі быў абраз – у народзе яго называлі Мадона Быценская. Знік у 1914 г. падчас Першай сусветнай вайны, калі адбыўся пажар у царкве і манастыры. Жыхары Быцені расказваюць, што ў 1939–1940 гг. з падзямелля разбуранага храма даставалася шмат абразоў і пераносілася ва Успенскую царкву, таму ўзнікае меркаванне, што захоўваўся абраз Маці Божай Жыровіцкай у Быцені. Яго трэба было рэстаўраваць, а таму ён не выстаўляўся і бачыць яго не маглі.***

# Быценская Мадона

У 1958 г. гэты абраз быў апісаны экспедыцыяй Дзяржаўнага мастацкага музея БССР. Гэтым займалася Н.Ф. Высоцкая – загадчыца аддзела старажытнабеларускага мастацтва. У сваім аўтарэфераце яна піша: «Матерь Божия дана почти по колени в красном хитоне, похристом мафории. На правой руке её сидит ребёнок в короткой охристой рубашке, с голыми ножками. Он двумя ручками обнял шею матери, прижался к её щеке. Образы Матери Божией и ребёнка – с коронами. Отделка – белая полоса, на которой сажей сделана надпись «Честнейшую Херувим и славнейшую без сравнения Серафим, без истления Бога слова рожшую сущую Богородицу тя величаем». Абраз быў адрэстаўраваны аж у 1989 г.

Чытаючы матэрыялы праўдзення рэстаўрацыйных работ і гледзячы на фотаздымкі да рэстаўрацыі, можна адзначыць, што захоўваўся абраз у складзеным выглядзе, бачны перагібы палатна, малюнак моцна забруджаны, жывапіс пад слоем пацямнелага лаку. Палатно старое, сшыўная строчка разыходзіцца, шматлікія разрывы, страты фарбавага слоя. Вялася апрацоўка па знятці пылу і цвілі, ліквідоўваліся разрывы і прапаліны палатна. Карціна адрэстаўравана мастакамі Пятром Журбеем і Аркадзем Шпунтам на базе Дзяржаўнага мастацкага музея.

Н.Ф. Высоцкая вызначыла XVIII ст. як дату напісання гэтага абраза. Аўтар гэтых радкоў правяла сваё даследаванне, аналіз літар на абразе, і вось што атрымалася: літары – скорапіс XV ст., XVI ст. Мастак з Быцені Аляксандр Юркевіч (цяпер жыве ў Брэсце) сцвярджае, што абраз выкананы ў старажытнагрэчаскім стылі (канец XVI – пачатак XVII ст., але не XVIII). Гэта бачна па цёмных адценнях фарбаў.

Ёсць дакументы рэстаўрацыйных работ 1989 г. У іх гаворыцца, што малюнак узнаўляўся ў колеры і тоне аўтара. Гэты абраз знаходзіўся ў Петра-Паўлаўскім храме вёскі Быцень. У «Летапісе Свята-Петра-Паўлаўскай царквы в. Быцень» чытаем: «У алтары на Горнім месцы знаходзіўся ківот, у якім размяшчаўся абраз Божай Маці з Прадвечным Немаўляткам на правай руцэ. Пісаны абраз на палатне, у старажытнагрэчаскім стылі, вакол абраза надпіс кірылічнымі літарамі. Першы звон храма быў адліты Г. Трызнам (з праваслаўнага баярства Браншчыны, які пасяліўся на Беларусі) у гонар Божай Маці да 1633 года. Можна меркаваць на аснове гэтага, што абраз створаны прыблізна ў канцы XVI – пачатку XVII ст.».

Энцыклапедыя гісторыі Беларусі (т. 2) дае звесткі аб цудатворнасці абраза: «Тут захоўваўся жыровіцкі абраз Маці Боскай», пазней вядомы як цудатворны ў Барунскім манастыры (Ашмянскі раён Гродзенскай вобл.). Ікона знаходзіцца ў Быцені, напісана па абразу Жыровіцкай, але апошняя – выява на камяні (яшме), а Быценская на палатне. Ёсць яшчэ адна такая ікона ў касцёле Св. Андрэя ў Слоніме, але яна без карон на палатне. Гэта ўсё пацвярджае словы У. Караткевіча аб тым, што гэты абраз шанавалі і праваслаўныя, і католікі. У рамане «Чорны замак Альшанскі» ёсць зноска, у якой аўтар мяркуе, што абраз Быценскі цяпер у Жыровіцах, і стаіць пытальнік у дужках. Значыць, і Караткевіч, які не раз бываў у Быцені, у прафесара Грынчыка, цікавіўся гэтым абразам.

Цікавыя звесткі знаходзім у кнізе архімандрыта Мельнікава «Жыровіцкі манастыр у гісторыі заходнерускіх епархій». Тут гаворыцца, што такі абраз знаходзіцца ў Рыме, у храме Св. мучанікаў Сергія і Вакха. У 1639 г. папа Урбан VIII падараваў яго базыльянам. Праз 100 гадоў у рэзідэнцыі генпракурора базыльянскага ордэна, у манастыры Св. Сергія і Вакха, у час рамонту калідора была знойдзена пад тынкоўкай выява Жыровіцкай Божай Маці. Відавочна, што абраз быў намаляваны гадоў 100 таму і пазней, падчас рамонту, замазаны вапнай. Генпракурор базыльян Бенедыкт Трулевіч загадаў перад абразам змясціць лампаду. Хутка сталі адбывацца цуды, і з кожным днём павялічвалася колькасць паломнікаў. 7 верасня 1729 г. абраз перамясцілі з калідора ў храм, у галоўны алтар. Шматлікія цуды ад гэтага абраза далі магчымасць Трулевічу хадайнічаць аб каранаванні абраза. Звычай каранавання Цудатворных абразоў у Заходняй царкве ажыццяўляўся з VII ст., але да XVII ст. быў не частым. Жыровіцкі абраз быў пятым па ліку сярод каранаваных абразоў Багародзіцы на тэрыторыі Рэчы Паспалітай. У 1730 г. адбылося каранаванне Цудатворнага абраза Божай Маці ў Жыровічах. Каранаванне праводзіў мітрапаліт Шапціцкі. Княгіня Ганна Сатушка падаравала дзве залатыя кароны, цудоўна выкананыя ў Рыме, аздобленыя каштоўнымі камянямі. На абразе Божай Маці з Быцені намаляваны выдатныя кароны. Гэта гаворыць аб цудатворнасці.



А вось аб якім цудзе Жыровіцкага абраза піша езуіт Гуміпенберг у сваёй працы: «З цудаў мне вядома аб такім. Тым, хто захварэў ерасю ці якім-небудзь іншым злачынствам, святы абраз не падаецца ў сваім натуральным колеры. Як кажуць, ён прымае цьмянае, нават чорнае адценне, нават гэтага і не заўважаюць апаганеныя злачынствам: ім думаецца, што ён пакрыты шчыльнай завесай, а тым, хто шчыра пакаяўся – прыгожай і благаснай».

І вось яе новае з'яўленне. Ва Успенскай царкве в. Быцень выстаўлена ў храме яна была 17 лютага 2001 года, дзе знаходзіцца і цяпер. І быценцы зноў пакланяюцца сваёй Мадоне. Смутак у вачах Божай Маці такі глыбокі, у яе «вочы пакуты». Гэта святыня. Перад ёй клалі зямныя паклоны нашы продкі, хрысціліся са словамі малітвы, з глыбокай пашанай прыкладаліся да яе аклада. Гэта Цудатворная Заступніца сваім поглядам дапамагае людзям знайсці веру.

***Ніна РУСАК,***
***настаўніца рускай мовы і літаратуры Быценскай СШ Івацэвіцкага раёна***





*На гэты год фальклорны ансамбль «Вясёлыя музыкі», што працуе пры БФК, запланаваў багата сустрэчаў з гледачамі. Адна з іх нядаўна прайшла ў Беларускім універсітэце культуры. Прыехалі ў госці і самадзейныя артысты з Пухавіччыны і Тураўшчыны.*

# Заземлены Палессем

*Не спускай ты мяне*
*на зямлю –*
*Я заземлены зроду глыбока.*
*Я радзіму так моцна люблю,*
*Што не трэба ніякіх зарокаў.*
**П. Місько**

Да Паўла Андрэевіча Місько прыйшла семдзесят пятая вясна. А пачынаўся жыццёвы шлях будучага пісьменніка са слуцкіх сцяжынак 14 сакавіка 1931 года ў вёсцы Старцавічы (цяпер Знамя) у сялянскай сям'і. Да вайны скончыў 2 класы. У 1947 годзе – Старцавіцкую ПСШ, у 1950 – СШ № 10 г. Слуцка. Скончыў аддзяленне журналістыкі БДУ ў 1955 годзе. Да студэнцкіх гадоў адносяцца першыя спробы пяра, якія друкаваліся ва універсітэцкай шматтыражцы. Павел Місько доўгі час працаваў на Палессі, Гродзеншчыне. Сямнаццаць гадоў свайго жыцця аддаў журналістыцы.

Працаваў у рэдакцыях газет «Звязда», «Сельская газета», «Літаратура і мастацтва». У 1971–1972 гг. быў загадчыкам аддзела навукі і мастацтва часопіса «Полымя». З 1972 – загадчык рэдакцыі прозы. У 1976 – 1980 гг. – намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Сваё першае апавяданне «Надзея» апублікаваў у 1958 г. на старонках альманаха «Брэст». Пішa ў асноўным пра вайну, сучаснасць, вясковае жыццё. У творах П. Місько адчуваецца добрае веданне матэрыялу, вострая праблемнасць. Найбольш значныя творы – пра жыццё сучаснай вёскі (раман «Градабой», аповесць «Ціхае лета»), партызанскую барацьбу на Палессі (раман «Мора Герадота»), ваенную і пасляваенную вёску (раман «Хлопцы, чые вы будзеце?»), зборнікі гумару «Чэрці ў каміне», «Лекцыя з падвывам».

Асабліва плённа працуе пісьменнік у дзіцячай літаратуры. Найбольш вядомыя кнігі «Навасёлы, або Праўдзівая, часам вясёлая, часам страшнаватая кніга пра незвычайны месяц у жыцці Жэні Мурашкі», «Зямля ў нас такая», «Прыгоды Бульбобаў».

Прыгодніцкая аповесць «Грот афаліны» атрымала



спецыяльны дыплом на Усесаюзным конкурсе ў 1985 г. Напісаў п'есы на сучасныя тэмы «На зачараваным востраве, або Баба Яга Залатая нага», «Канфлікт мясцовага значэння», «Змяя-спакушальніца».

Апошні час выйшлі ў свет зборнік вершаў «Ружовыя ліўні» і паэтычны раман «Пакуль зямлю мілуе сонца» (2005).

За плячыма Паўла Андрэевіча багаты жыццёвы вопыт. Чытаеш яго творы і бачыш, як аўтар усё добра ведае – у найдакладнейшых падрабязнасцях. Мова твораў няямушаная, натуральная, слова (што важна для мастацкай прозы) – дакладнае. Таму так лёгка чытаюцца лепшыя старонкі яго прозы.

Творчасць нашага знакамітага земляка П. Місько вартая самай пільнай увагі. Яму ёсць што сказаць людзям. Ён часты госць на мерапрыемствах, якія адбываюцца ў бібліятэках і школах.

Ад усяго сэрца віншуем пісьменніка з юбілеем! Жадаем здароўя, плёну на доўгія гады!

***Г. САСІНОВІЧ,***
***загадчыца бібліятэкі філіяла № 1 Слуцкай раённай ЦБС***

**Ад рэдакцыі.** ***Супрацоўнікі «Краязнаўчай газеты» (у тым ліку і землякі) далучаюцца да цёплых слоў віншавання і жадаюць Паўлу Андрэевічу моцнага здароўя, незабыўных сустрэч з чытачамі – прыхільнікамі яго пісьменніцкага таленту.***

# Крыж міласэрнасці

Гэты просты, але ў той жа час і вельмі сімвалічны змястоўны выраз запазычаны з назвы рамана Валянціны Коўтун, а яна яе, мабыць, перасэнсавала з рэлігійна-свецкаэстэтычна-грамадзянскіх разуменняў з біблейскіх часоў.

В. Коўтун нарадзілася ў красавіку 1946 г. у сям'і настаўнікаў. Як добра ведаю, Міхаіл Фёдаравіч (з ім і Валянцініным мужам фізікам Георгіем Міхайлавічам я таварышкаваў) і Ганна Раманаўна – ураджэнцы розных беларускіх куткоў – былі і як людзі з рознымі характарамі. Маці была спакойная, задуменная, бацька проста агонь, працавіты і майстравіты, вясёлы, гарэзны, так і сыпаў жартамі, хоць часамі было і нявесела на душы ад ваенных успамінаў ды ўсялякіх жыццёвых горасцей. Дачка ўзяла штосьці ад таты і штосьці ад мамы, але са сваім норавам, у якім, здаецца, наперадзе імкненне да самастойнасці, глыбіні пазнання ў зацікаўленым і грунтоўнасць выяўлення яго. Умее слухаць і не ўнікаць у шматслоўе гаваруна, умее трапна адказаць сур'ёзна, як маці, і жартам, як бацька.

В. Коўтун нарадзілася ў Рэчыцкім раёне, пасля з бацькамі пераехала на Піншчыну, адтуль пасля дзесяцігодкі скіравала позірк на Львоў, дзе тры гады навучалася ва універсітэце, а пасля перавялася на рускае аддзяленне філфака БДУ. Львоў даў ёй нямала: там у 1966 г. надрукавала першыя вершы (у перакладзе на ўкраінскую мову), зацікавілася лёсам беларускай інтэлігенцыі XIX – пачатку XX стст., якая жыла і дзейнічала ў гэтым дружалюбным горадзе (найперш Цётка), зазірнула ў багатыя львоўскія архівы, дзе было, ёсць шмат і беларускага. Пасля універсітэта і нядоўгага настаўнічання з 1970 г. пачалася рэдактарская праца («Сельская газета», выдавецтва «Юнацтва», часопіс «Полымя», цяпер – у «Маладосці»).

Безумоўна, рэдагаванне чужых, галоўнае, недасканалых рукапісаў адбірае нямала часу, але В. Коўтун, маючы вялікую падтрымку мужа, які шмат турбот па гаспадаранні, выхаванні сына і дачкі ўзяў на сябе, здолела абараніць кандыдацкую дысертацыю «Паэтычная структура беларускай пазаабрадавай песні пра каханне», напісала і выдала нямала кніг паэзіі («Каляровыя вёслы», «На ўзлёце дня», «На зломе маланкі», «Метраном» і інш.), пачала падступацца да прозы (мне пашанцавала быць першым чытачом і рэдактарам яе кнігі апавяданняў «Калінавая гронка залатая», што пабачыла свет у 1988 г. у выдавецтве «Юнацтва»). Прыкладна ў той час усплыў яе львоўскі «след» – раманам «Крыж міласэрнасці», дзе ў цэнтры асэнсаванне абставін абуджэння нацыянальнай свядомасці беларускага народа канца XIX і пачатку XX стст., няпростых і нялёгкіх ва ўмовах царскага самаўладдзя шляхоў яго лепшых сыноў да грамадскай дзейнасці. Найбольшая ўвага была ўдзелена стварэнню вобраза дзяячкі і паэтэсы Цёткі, якая дагэтуль паўставала ўжо са старонак паэм «На зломе маланкі» і «Суд Алаізы». Гэты твор быў экранізаваны, выдаваўся ў перакладзе на ўкраінскую і літоўскую мовы. А. Разанаў, Хр. Лялько і я былі сведкамі, як цёпла прымалі аўтара ў Вільні, дзе, як цяпер модна гаварыць, на прэзентацыю яе рамана прыйшлі і хораша гаварылі самыя вядомыя літоўскія пісьменнікі разам са старшынёй творчага саюза.

Як і апетая ёй Цётка, В. Коўтун актыўна займаецца грамадскай дзейнасцю – яна



старшыня фонда імя Ефрасінні Полацкай, прапагандуе духоўную дзейнасць гэтай асветніцы, а таксама вядзе вялікую работу па ажыўленні жаночага руху ў краіне. Нялёгкая, але высакародная дзейнасць першай вядомай на Беларусі жанчыны-асветніцы натхніла В. Коўтун напісаць пра яе раман. Хоць пра тую ёсць напісанае «жыціе» (бяссрэчна, ідэалізаванае царкоўнікамі), ёсць пэўныя дакладныя звесткі пра падзеі некаторых людзей, ды пісаць буйны мастацкі твор на такую тэму рызыкоўна і цяжка: неабходна даць вялікую волю не толькі магчымым ведам па асобе і сутнасці праваслаўя, але і інтуіцыі, фантазіі. Ды такая ўжо доля сапраўднага пісьменніка – не толькі па-майстэрску саўладаць з усім гэтым, але і зацікавіць чытача, наблізіць яго да разумовага свету і душы Яе, якая вось ужо больш за 900 гадоў з часу свайго нараджэння апякуецца над Беларуссю.

***Глыбокапаважаная Валянціна Міхайлаўна, ад імя «Краязнаўчай газеты» сардэчна віншую з юбілеем, жадаю моцнага здароўя, натхнёнага настрою, каб паспяхова і плённа закончыць раман «Пакліканыя»!***

***Генрых ДАЛІДОВІЧ***

***Валянціна КОЎТУН***

# Пакліканыя

***(Урывак з рамана)***

Фурманка з рыпучым скураным верхам павольна ўплывала ў чорную ноч Заслаўя, і цемра вакол здавалася такой густой, што можна было толькі падзівіцца, як яны, выехаўшы з Полацка колькі дзён таму такім жа ўедлівым ліпучым дажджом, не збіліся з дарогі... Выехалі сапраўды спешна, пасля нечакана гнеўнага веча. Еўфрасіння яшчэ раз праверыла, ці на месцы пасланне баяраў, і тут жа супакоілася.

Коні, натомленыя холадам і цемрай, спуджана храплі. Адно фурман Сава ў доўгім манаскім жупане і войлачнай шапцы трымаўся ўпэўнена. Толькі зрэдку азіраўся на ігуменню. А яна пільна асочвала цёмнае наваколле, нібыта хацела ўбачыць у глыбіні ночы тое, што, здавалася, ужо даўно зблякла ў памяці. Але заслаўскі дождж усё шумеў і шумеў, вымываючы са споду глухой цемры малюнкі яе далёкага малёнства ў доме старога князя. Сэрца замірала. Тое далёкае, такое цёплае і ласкавае, з высокімі пахучымі ліпамі і гарачымі арабінамі блізу княжай камяніцы, аказваецца, не забылася, а толькі ціха стаілася ў душы, і вось успыхнула: штоночы, помніцца, усцяж ахоўнай сцяны вартавыя з яе маленства палілі высокія вогнішчы...

Цяпер, пад'язджаючы да княжай сядзібы, яна ўзіралася ў цемру, чакаючы ўбачыць тыя далёкія агні, але стары валадар даўно памёр, а князь Расціслаў на даўнія звычкі ўжо не зважаў. Амаль адначасна, пасля чумы, пахаваўшы жонку і маці, Расціслаў гадаваў у Заслаўі адзіную дачку Вольгу. Але тыдзень таму быў змушаны выслаць ганца ў Полацк да Еўфрасінні. Зразумеўшы, у чым прычына такога спеху, яна, пакінуўшы манастыр на сястру Еўдакію, выехала ў той жа дзень.

Дарога была няблізкая, неба праз увесь шлях маўчала – аніводнай зоркі, ані знаку з'яўлення маладзіка. Толькі халодны дождж, такі ж важкі, як і гэтая густая ноч. Але іх – чакалі. Зусім блізка пачуліся радасныя галасы. Фурман крактануў і азірнуўся: нават у цемры разгледзела шырокае, наўскос рассечанае глыбокім шнаром светлабародае абліччa манаха-маўчуна. Сава ўсміхнуўся і саскочыў на зямлю. Абаперлася на яго руку, сышла з абрыдлай павозкі, да якой ужо спяшаўся з бляклым ліхтаром задыханы і ажно шэры ад радасці і доўгага чакання князь:

– Гасподзь літасцівы, сястра. Дачакаліся...

Пераажагнаўшыся, увайшла за ім у асветленую запаленымі перад абразамі васковымі свечкамі камяніцу. Зняла накідку. Князь тут жа знік у бакавых дзвярах. Тады агледзелася. Гэта была невялікая капліча, куды яна прыходзіла яшчэ падчас вучобы ў Данілавай школе. Амаль пасярэдзіне яе, на засланай светлаю коўдраю шырокай лаве ляжала маладзенькая, гадоў чатырнаццаці, юніца ў доўгай, светлай апратцы – княжая дачка. Здавалася – спіць. А Еўфрасіння ўжо абыходзіла капліцу, якую Глебавічы збудавалі яшчэ ў даўнія леты, прыкладвалася да абразоў. Крыху зводдаль ад хворай дзяўчыны стаяла двое паважных, у шоўкам расшытых шатах святароў, з якімі ветліва і радасна павіталася. Было яшчэ двое ў вельмі простым адзенні, але добра ведала і іх: лекар Раман з Кіева з вучнем. Ціха перашэптваліся і пераглядваліся. Нізка пакланіўшыся, павіталіся з ёю здалёк. Значыць, усё блага. А да яе ўжо вярталіся з бакавых дзвярэй сам князь, з непакрытаю галавою і з чырвонымі ад бяссоння вачмі. Паднёс кубак журавінавага напою. Прычыніў за сабою важкія рыпучыя дзверы. Прыселі на прысценкавую лаву блізу самага выхаду. Яшчэ даволі малады, Расціслаў ледзь стрымліваў трымценне рук. Заспяшаўся:

– Я перадам табе, маці-ігуменне, для манастыра два крыжы, залаты і сярэбраны, і яшчэ абраз Апякункі нашае. Усё аддам...

***(Працяг будзе)***

# Самабытная нацыя

## З гісторыі цыганоў Беларусі

*З'явіўшыся тысячу гадоў таму ў Еўропе, цыганы, якія вельмі адрозніваліся ад еўрапейцаў па знешнім выглядзе, мове, звычаях, доўгі час здаваліся загадкавымі і таямнічымі. Таму нарадзілася шмат паданняў пра іх паходжанне. У адной з легенд гаворыцца, што цыганы пайшлі ад першай жонкі Адама, якая была ў яго да Евы, у другой – яны рэшткі народа, які насяляў легендарную Атлантыду, у трэцяй – яны патомкі егіпецкіх фараонаў. Існуе таксама паданне, што цыганы – нашчадкі ізраільскіх плямёнаў, якія адсталі ад родзічаў у час перасялення.*

*У канцы XVIII стагоддзя нямецкія вучоныя І. Рудыгер, Г. Грэльман, А. Гют, а таксама аўстрыйскі філолаг Ф. Міклошыч, вывучаючы цыганскую мову, прыйшлі да высновы пра яе сувязі са старажытнаіндыйскай мовай і даказалі, што цыганы па сваім паходжанні звязаны з качавымі народамі Паўночнай Індыі. У пачатку II тысячагоддзя, пасля заваявання яе мусульманамі, цыганы вымушаны былі пакінуць сваю радзіму і доўгі час жылі ў краінах Блізкага Усходу.*

Першай згадкай пра цыганоў у Еўропе лічыцца запіс манаха ў архіве манастыра на гары Атос у Візантыі, які датуецца 1100 годам. У 1387 годзе цыганы з'яўляюцца ўжо ў Румыніі, у 1398 – на Крыце. У XIV стагоддзі значная іх частка перасялілася ў Малдавію. Сваёй другой радзімай цыганы лічаць Венгрыю і Паўночную Румынію. У Цэнтральнай Еўропе яны вядомыя з XV стагоддзя. У Расію цыганы прыйшлі толькі ў XVIII стагоддзі, у Амерыку – у XIX, а ў Японіі іх увогуле не было.

У Вялікім княстве Літоўскім цыганы пасяліліся ў сярэдзіне XV стагоддзя. Першым дакументам, які тычыцца цыганоў у ВКЛ, з'яўляецца прывілей вялікага князя Аляксандра Казіміра ад 25 мая 1501 года цыганскаму войту Васілю на права вандраваць у межах княства, а таксама мець суд згодна са сваімі звычаямі. Упершыню гэты дакумент быў апублікаваны І. Даніловічам у дакладанні «Цыгане».

Ужо ў сярэдзіне XVI стагоддзя на многіх сеймах ВКЛ разглядалася пытанне аб прымацаванні цыганоў да зямлі і гаварылася, што калі яны гэта не зробяць, то няхай пакінуць межы дзяржавы. Але мала хто з цыганоў станавіўся земляробам. У асноўным яны перамяшчаліся на тэрыторыю Усходняй Беларусі, на якой дзеянне законаў распаўсюджвалася не адразу. Некаторыя цыганы наймаліся на службу да шляхты і магнатаў. Так, на Гродзеншчыне ў маёнтку каралеўскага каморніка Мацвея Быстрыцкага служыў цыган Бубнец, у абавязкі якога ўваходзіла аб'язджаць маладых коней. Радзівілы і Сапегі запрашалі цыганоў-цымбалістаў іграць у свае палацы. Увогуле, у ВКЛ цыганы заваявалі прызнанне як добрыя кавалі, ювеліры, канаводы, спевакі, танцоры і дрэсіроўшчыкі звяроў.

Многія цыганы служылі ў войску. У 1567 годзе Гродзенскі сейм пастанавіў, што кожны, хто жадае пайсці на вайну, у тым ліку і цыганы, павінен з'явіцца да гетмана ўзброеным, верхам на кані або пешшу. Той, хто будзе храбра ваяваць, будзе ўзнагароджаны гаспадаром.

У XVIII стагоддзі шмат цыганоў асела ў мястэчку Мір (цяпер Карэліцкага раёна), якое належала нясвіжскім Радзівілам. Кароль Станіслаў Радзівіл (Пане Каханку) вельмі захапляўся звычаямі цыганоў. Ён надзяліў іх прывілеем на вольны гандаль у ваколіцах Нясвіжа і Міра. У сярэдзіне XIX стагоддзя жыццё мірскіх цыганоў апісаў П. Шпілеўскі ў нарысе «Путешествие по Полесью и Белорусскому краю».

У Міры была рэзідэнцыя цыганскага караля (старэйшыны). Галоўнымі абавязкамі яго з'яўляліся суд і расправа над тымі цыганамі, якія здзейснілі цяжкія злачынствы. Старэйшына адпраўляў вінаватага ў шацёр і сам лупцаваў яго джуплом (бізуном).

Выбары цыганскага караля адбываліся на полі каля мястэчка. За старэйшыну выбіралі цыгана сярэдніх гадоў, статнага і багатага. Ён павінен быў насіць жупан з адкладным чырвоным каўняром і хадзіць з перакінутай цераз плячо нагайкай з срэбраным дзяржаннем. Абраны старэйшына даваў клятву, пасля тры разы яго падымалі на руках угору, а ўсе прысутныя пляскалі ў далоні і крычалі. Потым каля ног цыганскага караля складалі падарункі, а жанчыны абсыпалі яго дурманам-травой, каб адагнаць злых духаў. Старэйшыну зацвярджаў кароль Рэчы Паспалітай і выдаваў яму грамату. Ян Казімір як цыганскага караля зацвердзіў Мацеша Каралевіча. У дакументах згадваюцца імёны такіх цыганскіх каралёў, як Дзевалтоўскі, Жуліцкі, Багуслаўскі.



Цыганы Гомельшчыны, 2002 год

Шырокую вядомасць атрымаў цыганскі кароль Ян Марцынкевіч (Баця Ян), які правіў з 1778 па 1790 год. Ён жыў у мястэчку Мір і любіў раскошу. Марцынкевіч наладжваў банкеты, на якіх прысутнічалі Радзівілы і іншыя знатныя шляхцічы. Ён ва ўсім імкнуўся паходзіць на Пане Каханку: пабудаваў прыгожы палац, ездзіў у пазалочанай карэце, запрэжанай 12 конямі, яго заўжды суправаджала вялікая світа. Пасля смерці Яна Марцынкевіча гэта пасада перайшла да ягонага сына, але той праз нейкі час з групай цыганоў эміграваў у Турцыю.

Пасля падзелу Рэчы Паспалітай, калі ўся тэрыторыя этнічнай Беларусі ўвайшла ў склад Расійскай імперыі, царскі ўрад выдаваў шмат указаў аб заліччанні цыганоў у сялянскае саслоўе і пра збор з іх падаткаў.

У пачатку XIX стагоддзя цыганы пасяліліся на ўскраінах Мінска, Слоніма, Барысава, Слуцка. Мужчыны займаліся конегадоўляй, кавальствам, вырабам скур, шавецтвам, а жанчыны – ткацтвам, шыццём, вязаннем, наймаліся палоць агароды і на іншыя работы. Спрадвечным заняткам цыганскіх жанчын было гаданне. У мястэчку Мір цыганы заснавалі папяровыя, суконныя, ткацкія і футравыя фабрыкі. Палатно мірскіх ткачоў славілася трываласцю і чысцінёй апрацоўкі.

Некаторыя цыганы мелі сваю зямлю і займаліся агародніцтвам. Гэта былі так званыя аселыя цыганы. У той жа час многія цыганы нават не мелі пастаяннага месца жыхарства. Яны з вясны да восені вандравалі, а зімой прасіліся да сялян у старыя свабодныя хаты ці гумны.

У 1897 годзе ў Расійскай імперыі быў праведзены першы Усерасійскі перапіс насельніцтва. У пачатку XX стагоддзя яго вынікі былі надрукаваны асобна па кожнай губерні. У табліцах, дзе адлюстравана размеркаванне насельніцтва па роднай мове, вылучана таксама і цыганская мова. Роднай цыганскую мову назвалі: у Віцебскай губерні – 1 054 чалавекі, у Магілёўскай – 637, у Віленскай – 182, у Гродзенскай – 206, у Мінскай – 498 чалавек. У матэрыялах перапісу пра цыганскі народ ёсць даныя таксама па паветах і гарадах.

У канцы XIX стагоддзя цікавасць да цыганоў як аднаго з народаў, які насяляе беларускія землі, ахапіла шырокія слаі адукаванага грамадства, асабліва этнографаў і фалькларыстаў. Так, А. Семянтоўскі склаў спіс населеных пунктаў Віцебскай губерні, дзе пражывалі на той час цыганы. Даследчык падкрэсліваў, што ў Гарадоцкім павеце ёсць вёска Цыганы, дзе жылі 43 прадстаўнікі гэтай нацыянальнасці. У этнаграфічным аглядзе губерні А. Семянтоўскі апісаў выгляд цыганоў, іх адзенне, заняткі і побыт. Аўтар прыводзіць і такія факты, што сярод віцебскіх цыганоў шмат людзей са светлымі валасамі і блакітнымі вачыма.

Вялікі этнаграфічны матэрыял пра цыганоў падаецца ў кнізе «Опыт описания Могилёвской губернии» пад рэдакцыяй магілёўскага губернатара А.С. Дамбавецкага, якая была надрукавана ў 1882 годзе. Тут апісваецца адзенне, упрыгажэнні, хатні скарб, ежа і звычаі цыганоў.

Цыганы заўсёды прытрымліваліся веравызнання таго народа, з якім жылі побач. Сярод беларускіх цыганоў ёсць праваслаўныя, каталікі і прыхільнікі евангельскай веры. Але ў рэлігіі цыганоў захаваліся і элементы старажытных вераванняў.

У цыганскай міфалогіі галоўны бог – Дэвел, з посаха якога сярод першабытных вод вырасла сусветнае дрэва, а з яго лісця выйшлі першыя людзі. Культ месяца звязваецца з сынам неба Дундрэ (Джандрэ). Яго атрыбутамі з'яўляюцца меч, лук і стрэлы, якімі ён змагаецца са змеем.

Паводле цыганскіх павер'яў, у лясах жывуць духі – урмы і кешалі. Яны лічацца таксама духамі ўрадлівасці, апекунамі парадзіх і немаўлят. Падземны свет населены пхувушамі – маленькімі чалавекападобнымі істотамі, тулава якіх пакрыта поўсцю шэрага колеру. Яны часта крадуць зямных дзяўчат. З ляснымі духамі звязваецца птушка Чарана. Духамі вады з'яўляюцца ніваšы (панітко) – тоўстыя істоты з чырвонай барадой, зялёнымі вачыма і капытамі каня на нагах. Такі ніваш можа зацягнуць чалавека ў ваду. Каб яго ўлагодзіць, цыганы, ідучы каля вады, кідаюць ахвяру – яблыкі, яйкі і іншае. Увогуле, духі прыроды не прыносяць шкоды, але калі іх пакрыўдзіць, то могуць адпомсціць.

У цыганскай міфалогіі існуюць духі хваробы (мізеха) і магільныя духі (муло). Паводле ўяўлення цыганоў, душа памерлага перасяляецца ў птушку. Многія цыганскія павер'і звязаны са звяркам ласкай і кажаном, які прыносіць шчасце.

Спрадвеку вялікая роля ў асяроддзі цыганоў адводзілася жанчыне – жонцы або маці цыганскага барона. Вылучалася і асобная каста чараўніц-знахарак (човалі). Сваю сілу яны нібыта атрымліваюць ад сусветнага дрэва, з вяршыні якога злятае маланка і б'е ў ваду, дзе валадарць ніваšы. З іх дапамогай магія ўваходзіць у цела цыганкі ў выглядзе змяі і надзяляе яе здольнасцю лячыць травамі.

Цыганы Беларусі ўваходзяць у склад супольнасці, якую акрэсліваюць як беларуска-літоўскую этналінгвістычную групу цыганоў Еўропы. Вылучаецца дыялект беларуска-літоўскіх цыганоў, асноўныя рысы якога ўзніклі ў выніку непасрэднага ўздзеяння беларускай мовы.

Жывучы на адной зямлі, народы пераймалі адзін у аднаго звычаі, фальклор. Напрыклад, у канцы XVII стагоддзя пры радзівілаўскім двары быў папулярны танец «Цыганка». Вобраз цыгана ўвайшоў у беларускі фальклор і паданні. Ён сустракаецца ў вясельным абрадзе як госць з боку нявесты, а таксама ў калядным абраднасці (цыган ходзіць разам з Дзедам і Музыкам). Паводле падання, цыганамі быў заснаваны горад Чавусы Магілёўскай вобласці, назва якога нібыта і паходзіць ад цыганскага слова «чэўс» – шацёр.



Цыган на малюнку Ю.І. Крашэўскага (сярэдзіна XIX ст.)

*Беларусы надзялялі цыганоў звышчалавечымі якасцямі. Так, існуе паданне, што цыганка пракляла раку Нятупу, што каля Ваўкавыска, за тое, што ў ёй патануў яе сын, а ў вёсцы Кармазы Старадарожскага раёна цыганка пракляла царкву, і тая быццам бы правалілася, а на яе месцы ўтварылася возера.*

*У розных кутках Беларусі можна знайсці тапанімічныя назвы, звязаныя з цыганамі. Каля Міра Карэліцкага раёна ёсць Цыганская гара, каля вёскі Калодзежы Чэрвеньскага раёна гара завецца Цыганская магіла. У Верхнядзвінскім раёне адзін з узгоркаў называюць Цыганская булка. Сустракаюцца назвы Цыганская рэчка, Цыганскі ручай, Цыганская ніва.*

*Як бачна, гісторыя цыганоў у Беларусі надзвычай багатая. На жаль, грунтоўных даследаванняў па гэтай праблеме пакуль няма. Трэба спадзявацца, што яна выкліча цікавасць у даследчыкаў.*

***Людміла ДУЧЫЦ***

***(«Беларускі гістарычны часопіс». 2005, № 3)***

## Сем цудаў Беларусі

***Працягваюць прыходзіць у «КГ» водгукі на наш заклік: вызначыць лепшае са скарбніцы нашага народа. Ёсць водгукі падпісаныя, некаторыя зашыфраваныя ініцыяламі, ёсць і ананімныя – мы друкуем усе.***

***Чакаем вашых лістоў.***

*Андрэй ФЕДАРЭНКА:*

*1) мова;*
*2) клімат;*
*3) разнастайнасць прыроды і багацце яе дароў;*
*4) традыцыі (гісторыя, фальклор, песні і г.д.);*
*5) характар людзей;*
*6–7) вакансіі.*

*Міхась МАЛІНОЎСКІ:*

1) Белавежская пушча;
2) слуцкія паясы;
3) Нясвіж з усімі яго помнікамі;
4) Нёман;
5) Сафійскі сабор у Полацку;
6) праспект Незалежнасці (Леніна–Сталіна–Скарыны) у Мінску;
7) друкаваная спадчына Францыска Скарыны.

*Р.В.:*

*1) беларуская мова;*
*2) «Біблія» Францыска Скарыны;*
*3) Сафійскі сабор у Полацку;*
*4) Барыса-Глебская (Каложская) царква ў Гродне;*
*5) Бердыж. Стаянка часоў палеаліту (100 тысяч гадоў да н.э.);*
*6) Ваўкавыск (крэмнёвыя шахты, 5 тысяч гадоў да н.э.);*
*7) Белавежская пушча.*



*Цудоўная рыбалка на апошнім лёдзе!*

*Фотаэцюд Леаніда БАРОЎСКАГА*

## Ад дзядзькі Антося



### Пра расаду

***1. Свая альбо рынкавая?***

Цяпер, канечне, пазнавата ўжо гаварыць наконт таго, што лепш: садзіць сваё зерне ці куплёнае? Час на гэта амаль сышоў, ужо трэба дагледжваць тое, што пасаджана. Але той, хто пасадзіў сваё, будзе ўзнагароджаны за турботы з зямлёй, угнаеннямі, доглядамі ўзыходаў. Жаданым гатункам і якасцю.

***2. Зямля, што прадаецца, цалкам прыгодная пад перасадку?***

Не зусім. Каб расада дружна расла, купленую зямлю трэба прасушыць і, галоўнае, да яе, абеднэнай, дадаць да палове (у залежнасці ад культуры) перагною ці пладароднай зямлі.

***3. Якую расаду высаджваць на агародзе: яшчэ маладую ці тую, што ўжо цвіце?***

Зразумела, маладую. Яна лепш прыймецца. Трэба падцэліць угадаць, якая будзе вясна і з разлікам гэтага рассаджваць расаду ў асобныя гаршчочкі (значыць, і не спяшацца, і не марудзіць). Расада, што цвіце, горш прыжываецца і дае меншы ўраджай. Выключэнне – кветкі: аксамиткі (бархатцы), петуніі і інш.

***4. Праз расаду, каб хутчэй атрымаць ураджай, можна вырошчваць усё?***

Не. Такім чынам хутчэйшага і большага ўраджаю можна дабіцца ад таматаў, перцаў, агуркоў, кабачковых, цыбулі, часнаку, бульбы, буракоў, сельдэрэю і іншых пахкіх культур (толькі не ўкропу). Большасць, як і моркву, неабходна садзіць (сеяць) непасрэдна ў глебу.

### Пра саджанцы

Некаторыя, хто хоча хутка пасадзіць пладовыя дрэвы і кусты, хвалююцца: а ці не пакалечыў іх сёлетні мароз нават у захавальніку? Думаю, што не. Але калі будзеце купляць (асабліва з рук), то дамажыцеся, каб для вас зрабілі зрэз на галінцы. Калі ў яе сярэдзіне будзе пачарнеласць, то такое дрэўца пасцерагайцеся набываць. Найперш такую сліву, вішню, чарэшню, алычу, што звычайна трэба садзіць увесну. А вось яблыню ды грушу пажадана садзіць увосень.

### Пра птушак

Не аднаго з нас сёлета настрашылі птушыным грыпам і пераносчыкамі яго, што з намі суседзяцца як на лецішчы, так і ў горадзе. Усіх крылатых суседзяў як не заб'еш, так і не адгоніш. Вось тыя, хто найбольш з намі побач і якая ад іх карысць ды пагроза:

*Верабей.* Вясной і ў пачатку лета ўвішна знішчае шкодных насякомых, ачышчае сад, пасевы на полі і гарадскія паркі (помніце, адстрэл іх у Кітаі не столькі збярог канопліі, колькі шмат чаго загубіў ад нашэсця полчышч пражорлівых саранчы і гусеніц). Але шустрык і шкодніча: увосень пераходзіць на раслінную ежу (можа выдзёўбваць сланечнікавае зерне і інш.), можа пераносіць дызентэрыю, туберкулёз і г.д.

*Варона.* Выдатны санітар смецця, падбірае падаліну, не дасць праходу мышам і нават пацукам. Але вядомая зладзейка: любіць красці курaнят, ласуецца маладымі пасевамі, можа з-за цікаўнасці выгрэбаць з зямлі пасаджаныя цыбулю, фасолю.

*Сініца.* Не менш вераб'я абследуе кожную трэшчынку на дрэве і здзёўбвае паразітаў і іхнія лічынкі – за дзень з'ядае столькі насякомых, колькі важыць сама. Ды ў асенне-зімовы, ранневясновы час не супраць паласавацца і пчоламі.

*Голуб.* Вабіць прыгажосцю, лагодным вуркатаннем (які горад без яго?). На жаль, не навучыўся культурнічаць, абследжвае дахі дамоў і нават помнікі вялікіх людзей (ад чаго карозія металу), траву пад дрэвамі.

Арнітолагі лічаць: кожная з гэтых нашых, зусім не заморскіх птушак, можа пераносіць птушыны грып. Але... прырода не будзе здаровай без іх.

### Пра крата

Не аднаму касцу, гаспадару ўеўся ён у печані: як толькі зямля добра ўгноіцца, завядуцца патрэбныя чэрві, што гумусяць глебу, ён, сляпак, тут як тут. Паніўчыць зямных працаўнікоў, падкапае, падсушыць карэнне і можа загубіць расліну. Некаторыя спрабуюць яго хады задыміць, заліць вадой ці газай, чагосьці туды падсыпаць і г.д. Дарма: землярыец за адну ноч здольны пракласці свой тунель даўжынёй у 76 м. З механічных спосабаў параю ўстанавіць на кіі самалёцік з прапелерам ці начапіць нарэзанай фольгі: ён асцерагаецца шуму.

**Лічбы пра нас, дачнікаў:**

*– 35 451 зямельны ўчастак, што амаль не апрацоўваюцца, выяўлены адпаведнай службай (Камзем) у 2005 г.;*

*– 5 431 участак аднесены да тых, што не выкарыстоўваюцца;*

*– 696 асоб было прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці за невыкарыстанне зямлі па мэтавым прызначэнні.*

## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

**ВАРЫЎНЯ** (стопка, істопка) – гаспадарская пабудова, дзе захоўвалі садавіну і агародніну, малако. Ёсць яе апісанне з XVII ст. Магла ацэпліваца курнай печчу, быць пры хаце замест сянец, а пад сабой мець пограб.

**ВАСІЛЕВІЧЫ** – горад у Рэчыцкім раёне за 45 км ад Рэчыцы і 86 км ад Гомеля. Чыгуначны вузел (лініі на Гомель, Хойнікі, Калінкавічы). У XIX ст. вёска, цэнтр воласці ў Рэчыцкім павеце. У 1878 г. заснавана метэастанцыя. У 1897 г. было 1 968 насельнікаў. Былі цэнтрам раёна, з 1950-га гарадскі пасёлак, з 1959-га ў Рэчыцкім раёне, з 1971 горад. Развіваецца мясцовая прамысловасць па апрацоўцы сыравіны.

**ВАСІЛЕЎСКІ** Леан (1870–1936) – польскі публіцыст, гісторык, палітычны і дзяржаўны дзеяч. Напісаў манаграфію «Літва і Беларусь» (Кракаў, 1912), у якой даследаваў развіццё асветы, гісторыю літоўскага і беларускага нацыянальна-вызваленчага руху XIX – пачатку XX стст. і вялікую ўвагу надаў выдавецкай справе, беларускай перыёдыцы, аналізу зместу і аўтарскага актыву «Нашай нівы», прапагандзе на яе старонках тэмы дружбы народаў. Вылучаў творчасць Я. Купалы, Я. Коласа, падкрэсліваючы, што першы – глыбока нацыянальны і грамадска-патрыятычны, а другі ўмее праз апісанне простага вясковага побыту ствараць значныя мастацкія творы. На жаль, з 1924 г. узначальваючы Інстытут вывучэння навейшай польскай гісторыі, адышоў ад спачування беларускаму і ўкраінскаму нацыянальна-вызваленчаму руху і падтрымліваў афіцыйны шавіністычны курс польскіх улад.



*Цэнтр Васілевічаў*

**ВАСІЛЬКА** – слонімскі князь XIII ст. Названы ў Галіцка-Валынскім летапісе пад 1281 г. Ёсць звесткі, што падтрымліваў ідэю стварэння прыкладна ў 1246 г. ВКЛ, у саюзе з валынскім князем Уладзімірам і іншымі князямі ўмешваўся ў спрэчкі польскіх князёў, спрыяючы больш блізкаму да ўсходніх славян Конраду Мазавецкаму.

**ВАСІЛЬКА ВАЛАДАРАВІЧ** – князь лагожскі (лагойскі). У 1186 г. у кааліцыі са смаленцамі, наўгародцамі і друцкім князем Усяславам браў удзел ў паходзе на Полацк. Палачане здолелі шчодра задобрыць нападаўцаў дарамі і такім чынам прадухіліць вайну.

**ВАСІЛЬКА РАМАНАВІЧ** (1199? – 1271?) – князь уладзіміра-валынскі з 1241 г., разам з братам Данілам у 1246, 1247, 1249 і 1251 гг. узброенай сілай змагаўся супраць сцвярджэння ВКЛ. У 1258-м у паход на сталіцу ВКЛ Навагародак заклікаў татарскае войска. Пазней (1264), калі вялікі князь ВКЛ, манеўруючы, каб засцерагчыся ад новых войнаў, добраахвотна саступаў пасад сынам Данілы Галіцкага, Васілька дапамагаў заваёўваць, далучаць да ВКЛ Дзяволтву і Нальшаны.

**ВАСІЛЬКА СВЯТАСЛАВІЧ** – полацкі князь XII ст., брат Ефрасінні Полацкай. Упамінаецца ў летапісе пад 1132 г., калі полацкае веча абрала яго на пасад. Ён спрыяў, каб княская ўлада не перадалася па нашчадстве, а каб князя выбірала веча. Яшчэ вядома, што ён у 1143 г., мацуючы добрыя адносіны з Кіевам, выдаў замуж сваю дачку Марыю за Святаслава, сына вялікага князя кіеўскага Усевалада Ольгавіча.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 06.04.2006.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330/0056609 ад 27.02. 2004 г.)
Заказ 564.
Тыраж 1540 асобнікаў.